СЯРГЕЙ ЧЫГРЫН

# ДЗЯЛІЎ ТРЫВОГУ І НАСТРОЙ

МІКОЛА АРОЧКА НА ФОТАЗДЫМКАХ

Мінск, «Кнігазбор», 2021

УДК [821.161.3.09(092)+929 Арочка](084.12)
ББК 83.3(4Беи)я6
Ч-11

Фундатар выдання —
жонка пісьменніка Марыя Іванаўна Арочка.

Фотаздымкі з прыватных архіваў Марыі Арочка, Сяргея Чыгрына, Адама Мальдзіса, Міхася Скоблы, Алеся Бельскага, Віктара Шніпа, Анатоля Вераб'я, Сцяпана Лаўшука, Беларускага дзяржаўнага архіва літаратуры і мастацтва, Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры.

Вершаваныя радкі Міколы Арочкі.

**Чыгрын, С.**
Ч-11 Дзяліў трывогу і настрой : Мікола Арочка на фотаздымках / Сяргей Чыгрын. — Мінск : Кнігазбор, 2021. — 52 с.
ISBN 978-985-7227-99-0.

Фотаальбом прысвечаны жыццю і творчасці доктара філалагічных навук, паэта, літаратуразнаўца і перакладчыка Міколы Арочкі (1930–2013).

**УДК [821.161.3.09(092)+929 Арочка](084.12)**
**ББК 83.3(4Беи)я6**

**ISBN 978-985-7227-99-0**


# Жыў з намі побач

Няправільна лічыць сёння, што гісторыя — гэта толькі гучныя падзеі і вялікія даты. Гісторыю ствараем мы самі, ствараем яе кожны дзень: са смехам і слязамі, з радасцю і сумам, запамінаючы ці забываючы падзеі свайго жыцця, сустракаючы ці губляючы сяброў і родных людзей.

За вялікімі гістарычнымі падзеямі можна прасачыць па дзяржаўных архівах і нават па інтэрнэце, а вось гісторыю сваёй сям'і ці гісторыю аднаго чалавека мы можам адсачыць толькі па старых фотаздымках ці відэафільмах. Ды і старыя фотаздымкі, напрыклад, жыцця пісьменніка могуць нам распавесці пра іх значна больш, чым сухія факты біяграфіі. Таму фотаздымкі, якія склалі гэты альбом, дапоўняць шмат цікавага і раней невядомага да няпростага лёсу доктара філалагічных навук, беларуска паэта і літаратуразнаўца Міколы Арочкі (1930–2013). Апошнія дваццаць тры гады жыцця ён пражыў у роднай вёсцы Вецявічы на Слонімшчыне. Там пісьменніка і правялі ў апошні шлях вяскоўцы на мясцовы пагост, правялі да сыноў, лёс якіх быў трагічным і кароткім.

У вясковай хаце засталіся на стале недапісаныя вершы і паэмы Міколы Арочкі, а на кніжных паліцах сумуюць сёння без свайго гаспадара дзясяткі кніг, многія з якіх падараваныя пісьменнікамі з аўтографамі і пажаданнямі. Жонка паэта Марыя Іванаўна Арочка дазволіла мне пазнаёміцца з бібліятэкай літаратара, а таксама ўзяць у сваю асабістую бібліятэку тыя выданні, якія мяне зацікавяць. Некалькі гадзін я сядзеў каля кніг асабістай бібліятэкі Міколы Арочкі. Даставаў з паліц то адну, то другую, то дзясятую кнігу... Усе яны напаміналі мне пра таленавітага літаратара-земляка, якога ведаў і з якім сябраваў шмат гадоў.

Сваім земляком Міколу Арочку лічылі таксама Мікола Грынчык і Янка Брыль. У бібліятэцы Міколы Арочкі захаваліся і іх кнігі з аўтографамі. «Дарагому Міколу Арочку,

земляку і сябру з сардэчнымі пачуццямі і пажаданнем далейшых, яшчэ большых і большых творчых поспехаў — аўтар. 8.4.1969. Мінск», — такі аўтограф пакінуў Мікола Грынчык (1923–1999) на сваім даследаванні «Фальклорныя традыцыі ў беларускай дакастрычніцкай паэзіі» (Мінск, 1969). А Янка Брыль (1917–2006) на кнізе апавяданняў, замалёвак і нарысаў «Працяг размовы» (Мінск, 1962) напісаў: «Міколу Арочку — земляку і паэту. Янка Брыль. 31.8.62».

Мікола Арочка і яго жонка Марыя Іванаўна шчыра сябравалі з паэтам Уладзімірам Дубоўкам. Упершыню Мікола Арочка наведаў Уладзіміра Дубоўку (1900–1976) у Маскве ў лютым 1976 года. З самага ранку да цямна за сталом дубоўкаўскай маскоўскай кватэры ў Новых Чаромушках яны гутарылі пра жыццё, літаратуру, пра тых, хто быў рэпрэсаваны, хто выжыў, а хто назаўсёды застаўся на Салаўках і ў Сібіры. Мікола Арочка ў Маскве знаходзіўся праездам, бо як навуковец ехаў у Казань на святочныя мерапрыемствы з нагоды 70-годдзя нараджэння татарскага паэта Мусы Джаліля. Ён ці не апошні з беларускіх паэтаў, хто з Дубоўкам сустракаўся ў Маскве за месяц да ягонай смерці (Уладзіміра Дубоўкі не стала 20 сакавіка 1976 года. — *С. Ч.*). Седзячы за сталом, Уладзімір Дубоўка падпісаў яму сваю кнігу казак «Залатыя зярняты» (Мінск, 1975): «На добры ўспамін, ад шчырага сэрца М. М. Арочку — з сардэчным прывітаннем Ул. Дубоўка. 9.02.76».

У 1960-х гадах жонка Міколы Арочкі Марыя Іванаўна працавала ў рэдакцыі літаратурна-драматычных перадач на Беларускім радыё. І калі ў Мінск прыязджаў Уладзімір Дубоўка, яна заўсёды яго запрашала на радыё, дзе ён чытаў свае празаічныя і вершаваныя творы. У 1961 годзе на зборнічку ўласных вершаў «Палеская рапсодыя» (Мінск, 1961) ён напісаў: «Марыі Іванаўне Арочка з вялікай пашанай, ад шчырага сэрца. Уладзімір Дубоўка. 31.06.61 г.». А ў 1966 годзе Уладзімір Дубоўка падараваў Міколу і Марыі Арочкам свой двухтомнік «Выбраныя творы ў двух тамах» (Мінск, 1965): «Дарагім, сардэчна паважаным Марыйцы і



Міколу Арочкам з вялікай пашанай, ад шчырага сэрца. Ул. Дубоўка. 12.05.66»...

Я і цяпер не мінаю роднай вёскі Вецявічы Міколы Арочкі. Там стаіць яго пустая хата. А вясковую вуліцу работнікі Сялявіцкага сельскага Савета назвалі ў гонар двух Арочкаў — Міколы Арочкі і Эдуарда Арочкі. Эдуард Арочка некалі ўзначальваў мясцовы калгас, быў шчыры беларус і патрыёт, выпісваў беларускамоўныя газеты «Звязда» і «Наша слова», пісаў артыкулы на розныя тэмы і друкаваўся ў рэспубліканскіх газетах.

На хаце Міколы Арочкі з'явілася мемарыяльная шыльда, якую ўстанавілі слонімскія грамадскія актывісты з дазволу жонкі Марыі Іванаўны. Але ўжо няма Мікалая Мікалаевіча ні ў хаце, не крочыць ён з роварам па вёсцы, не вядзе на аселіцу сваіх коз, не малоціць і не жне. Паэт і вясковец за вёскай прылёг назаўсёды адпачыць. Пасля таго, як у сталіцы трагічна загінулі яго два сыны і нявестка, а невядомыя зламыснікі абрабавалі і падпалілі яго кватэру, Мікола Арочка з жонкай і маленькім тады ўнукам Валерыкам вярнуліся ў родную вёску. Тут і ратаваўся ён вясковай працай, прыродай, паветрам і, вядома ж, паэзіяй. Еду да яго ў Вецявічы, і ў памяці прыгадваюцца радкі з першага зборніка Міколы Арочкі:

*Іду, як заварожаны,*
*А спеў плыве з-за гаці:*
*«Ці ўсе лугі пакошаны,*
*Ці ўсе сенажаці!..»*

Мне заўсёды здаецца, што гэта гаць не толькі за алешнікам паміж слонімскімі вёскамі Вялікая Кракотка і Вецявічы, але і гаць за маёй роднай вёскай Хадзявічы. А калі ехалі аднойчы з Міхасём Скоблам, дык разам, адначаса прыгадалі гэтыя светлыя, шчырыя і цёплыя радкі.

Слаўны мой дзядзька Мікола! Так я яго часам клікаў, слухаў яго жыццёвыя былі, якіх ён ведаў даволі шмат. Ён мог распавядаць бясконца. Распавядаў ён і пра газаправод

Ямал–Еўропа. Гэты газаправод праходзіць побач з вёскай Вецявічы. Калі клалі трубы, а дзядзька Мікола якраз там пасвіў кароў, дык каровы ў гэтыя трубы рыкалі. «Магчыма, прапаноўвалі, каб газу, хоць струменьчык, далі ў Вецявічы», — казаў жартам мне славуты вясковец. Ніхто не даў і не пачуў вецявіцкіх кароў Міколы Арочкі. Газ з Расіі пайшоў на Захад.

Дзядзька Мікола заўсёды хадзіў з роварам. На руль ён вешаў услончык і кошык, а ў кошыку былі вершы і Біблія. У вершах слонімскага паэта мне шчыра імпанавалі тыя постаці, якія стаялі на ахове духоўнасці нашага народа, яго культуры, мовы, калі Бацькаўшчына была ў небяспецы, калі варожыя сілы спрабавалі пазбавіць народ волі, гістарычнай памяці, роднай мовы. Давайце прыгадаем яго драматычныя паэмы «Крэва», «Судны дзень Скарыны», «Каранацыя Міндоўга» — творы пра Міндоўга, Кейстута, Вітаўта, Францыска Скарыну. З прагнай цікавасцю чытаю сёння вершы Міколы Арочкі пра лёс Валянціна Таўлая, Гальяша Леўчыка, Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Кастуся Каліноўскага, Браніслава Тарашкевіча, Францішка Багушэвіча — ды ўсіх пералічыць немагчыма. А гэтыя радкі-малітва на Адама Станкевіча:

*Малюся я на Вас, на святара,*
*Пакутніка за долю Беларусі,*
*На Вашу святасць веры і дабра,*
*Упаўшы на калені, я малюся...*
*Я Ваш вызнанец мэтаў і надзей*
*На Адраджэнне вольнай Беларусі.*
*Я з вераю — у Боскі Дом людзей*
*Заходжу ціха — і на Вас малюся.*

У апошні час мы вельмі мала пішам пра мову паэтаў, не кажучы ўжо пра мову пісьменнікаў, журналістаў, настаўнікаў, палітыкаў. У нас, мне здаецца, ужо няма завостранасці на аналіз таго, як хто з іх узбагачае лексіку і сінтаксіс нашай беларускай мовы. Мы больш за ўсё азіраемся на акадэмічныя слоўнікі, а ў апошні час — часцей за ўсё на інтэрнэт. А менш сталі паглыбляцца ў сваю памяць, якая павінна захоўваць народнае багацце, якое нічым ніколі не ахопіцца. Мая павага да кніг Міколы Арочкі засталася са мной назаўсёды яшчэ таму, што, чытаючы яго творы, лаўлю сябе на думцы, што і ў нас вось гэтак кажуць, так кажа і мая 90-гадовая маці: *іржышча, вазок пакоўны, гарчэча, падаянка, малачай, радно, напровесну, рукі крэпнуць* і іншыя залатыя зярняты нашай мовы. Не магу не прывесці радкі з найцудоўнейшага верша Міколы Арочкі «Каласы ў хвартуху тваім». Верш-шэдэўр, у якім народнасць радкоў праяўляецца як у ідэйна-мастацкай структуры твора, так і ў мове: паэт імкнецца наблізіць паэтычную мову да гутарковай, выкарыстаць фальклорныя і народныя традыцыі ў апісанні жніва і саміх жней:

*Калі маці палетак свой жала,*
*Хвартушок саматканы брала.*
*Падтыкала за пояс ражкі*
*І пускала сярпок па загоне,*
*Поруч з ёй шчыравалі жанкі*
*Перад золатам нівы ў палоне.*
*А наперадзе іх — хвартушкі,*
*З вышыванкамі беражкі!*
*А сярпок у матулі займісты,*
*Назублёны, ў праменнях наўскос,*
*Нырцаваў між сцяблін залацістых,*
*Скарб калосся з падхопам нёс,*
*Чыста нёс у наступнасць,*
*Вячыста!..*

Скарб Мікола Арочка нам пакінуў і як крытык. Ён быў удумлівым, сталым, вопытным, аўтарытэтным літаратурным крытыкам. Такога сёння ў нашай літаратуры няма. Асабліва дасканала пісьменнік даследаваў жанр паэмы, сатырычнай беларускай паэзіі, асноўных заканамернасцяў беларускага паэтычнага слова. Крытык спыняўся на эстэтычных каштоўнасцях, якія былі створаны, у прыватнасці Максімам

Танкам, Кандратам Крапівой, Міколам Аўрамчыкам, Рыгорам Барадуліным, Аляксеем Пысіным, Алегам Лойкам, Валянцінам Таўлаем, на высокім узроўні літаратурнай культуры XX стагоддзя, разглядаў майстэрства, паэтыку, багацце жанрава-стылявых пошукаў пісьменнікаў. Як крытык з шырокімі творчымі інтарэсамі, глыбокай эрудыцыяй, самабытным мысленнем, ён шчыра вёў размову пра ўсю беларускую паэзію 1960–1970-х гадоў.

Чытаю-перачытваю сёння кнігі свайго земляка Міколы Арочкі. І вучуся ў яго майстэрству, які будзіў і будзіць душу чытача, прымушае думаць над нашым жыццём, чалавечымі ўзаемаадносінамі, павагай да сваёй культуры, рэлігіі і гісторыі наогул. Дзякуй Вам, дзядзька Мікола, за тое, што я Вас ведаў, за Вашы кнігі і аўтографы, за Вашы пажаданні і любоў да Бацькаўшчыны.

У 2020 годзе мінскае выдавецтва «Беларуская навука» ў славутай серыі «Беларускі кнігазбор» выпусціла ўнікальны том (540 старонак) Выбраных твораў Міколы Арочкі. Гэты том рыхтаваў я, пісаў да яго прадмову і каментар. Выхад Выбраных твораў быў прымеркаваны да 90-годдзя з дня нараджэння Міколы Арочкі. Параіўся з жонкай Міколы Арочкі Марыяй Іванаўнай, і было вырашана яшчэ сабраць і выдаць пад адной вокладкай фотаздымкі пісьменніка, якія захаваліся. Сам Мікалай Мікалаевіч не вельмі любіў публічнасці, ён больш пісаў, шчыра працаваў, думаў. Тым не менш за жыццё сабралася шмат фотаздымкаў, якія склалі гэты фотаальбом. У іх адчуваецца трывога і сляза, радасць і настрой, па іх бачны творчыя здабыткі і поспехі. Адным словам, усё жыццё Міколы Арочкі ў гэтых фотаздымках. Яны яшчэ раз нагадаюць чытачам пра нашага таленавітага пісьменніка, які зусім нядаўна жыў з намі побач.

*Сяргей ЧЫГРЫН*






Дарога ў родную вёску Міколы Арочкі, 2012 г.



* * *

Іду, як заварожаны,
А спеў плыве з-за гаці:
«Ці ўсе лугі пакошаны,
Ці ўсе сенажаці...»

*1955*

Надзея Пятроўна Арочка
з сынамі Янам і Міколам.
Вёска Вецявічы, Слонімскі
павет, 1938 г.



Мікола Арочка (стаіць справа) з бацькам, маці, сястрой і братам на Слонімшчыне, пачатак 1950-х гг.



Мікола Арочка (крайні справа) з землякамі, 1950 г.





Маці Міколы Арочкі Надзея Пятроўна



Бацька Міколы Арочкі Мікалай Мікалаевіч



Мікола Арочка з будучай жонкай Марыяй, 1951 г.



Мікола Арочка — вучань 10-га класа Азярніцкай сярэдняй школы Слонімскага раёна, 14 красавіка 1951 г.



Цётка Міколы Арочкі
Марыя Арочка



Мікола Арочка,
1952 г.



Мікола Арочка і Генадзь Кляўко каля помніка Янку Купалу, 1951 г.







Мікола і Марыя Арочкі, 1953 г.



Мікола Арочка з жонкай Марыяй і братам Іванам, 26 снежня 1953 г.



Студэнт БДУ,
1953 г.



Мікола Арочка са сваімі аднакурснікамі — студэнтамі БДУ, 1953 г.



Студэнт Арочка думае, 1952 г.



Мікола і Марыя Арочкі на беразе Свіслачы, 6 жніўня 1952 г.



Іван Арочка — родны брат Міколы Арочкі, 1955 г.



У студэнцкім інтэрнаце, 1954 г.

* * *

Сёння хлеб у нас дваякі:
Чорны, белы... А ніякі —
Даўні, горкі і пракляты,
Мы не пусцім больш у хату.

*1962*





Мікола з братам Іванам і сястрой Валяй, 1954 г.



Зноў разам — Мікола і Марыя, 1952 г.



Студэнт БДУ, 1954 г.



У парку Янкі Купалы ў Мінску, 1951 г.

* * *

Я люблю наступленне,
Дзе трэба і плугам, і песняй змагацца.
Я — з таго пакалення,
Якое з агню ўратавана для працы.

*1966*



Каля помніка Янку Купалу, 1951 г.






Мікола Арочка ў Гаграх, 1953 г.





Мікола і Марыя Арочкі, 1950-я гг



Мікола Арочка з маці ў роднай вёсцы Вецявічы Слонімскага раёна, 1958 г. Фота Янкі Брыля

* * *

Родны край!
Налівай буйным зернем жыты,
Каласуй і красуй — і, як сыну, павер мне:
Не хачу між калоссяў быць коласам тым,
Што часамі ўзрастае без зерня.

*1965*



Ва ўніверсітэцкім скверыку. Стаяць (злева направа): Рыгор Барадулін, Анатоль Клышка, Васіль Зуёнак, Анатоль Вярцінскі, Генадзь Бураўкін. Сядзяць: Юрась Свірка, Мікола Арочка, Кастусь Цвірка, 1950-я гг.

* * *

Выстаяла жыта — не здалося!
Жыту — жыць, зямлі — каласаваць.
Ля былых дарог вайны калоссі,
Як балада мужнасці, звіняць.

*1972*





Марыя і Мікола Арочкі на Бяздонным возеры на Слонімшчыне

* * *

Не спазнаў усяго, не пабачыў,
Ад жыцця браць усё не ўмеў.
Аднаго я хацеў — без астачы
Праспяваць свайму краю спеў.

*1974*



Мікола Арочка,
1955 г.



Мікола Арочка,
1956 г.



Пасля
заканчэння БДУ,
1956 г.




Першая кніга Міколы Арочкі, 1958 г.

* * *

Зямля без пачуццяў сыноўнасці
Намножыць трывог і бед.
Пад знакам высокім супольнасці
Мой роздум глядзіць у свет.

*1985*





На чыгуначным вакзале
ў Мінску, 1955 г.




Аповесць «Хай расце маладая
таполя», 1964 г.



Маладыя бацькі,
1957 г.



Сыну Міколы і Марыі Арочкаў
Лёніку адзін годзік, 1958 г.



Маці Міколы зграбае сена, 1965 г.

* * *

Беларусь мая, шыракапольная,
Лесадайная, узгоркавая,
Спаконвечна ты з доляй супольнаю,
Як зара, світальнаю,
Як палын, прагорклаю...

*1984*






У гасцях у настаўнікаў і вучняў СШ № 2 г. Слоніма. Стаіць Мікола Арочка. У першым радзе злева направа сядзяць Людміла Клімовіч (сястра Алега Лойкі), Уладзімір Дамашэвіч, Алег Лойка, Леў Шакун, Мікола Аўрамчык і Анатоль Іверс, 1968 г.

* * *

Наш свет — адна сям’я.
Ды верыцца бясконца,
Што кожная зямля
Сваё запаліць сонца!

*2008*




Зборнік вершаў, 1962 г.

* * *

Добры пасеў дало слова
матчына,
Што прадракала пару
няўхільную...
Сёння ж тужліва,
як родную спадчыну,
Вёска мая ўспамінае
Вільню.

*1966*



Анатоль Верабей, Мікола Арочка і Максім Танк,
1977 г.





*Паважаны таварыш!*

Запрашаем Вас
на аўтарскі вечар

Міколы АРОЧКІ

Слова пра паэта —
доктар філалагічных навук, прафесар,
паэт Алег ЛОЙКА

Вершы, урыўкі з паэм чытае аўтар

Думкі пра паэзію. Адказы на пытанні.

Вечар адбудзецца 15 мая 1979 г.
у Беларускім дзяржаўным універсітэце
імя У. І. Леніна.

(Галоўны корпус, механіка-матэматычны
факультэт, аўдыторыя № 433).

**Пачатак у 18.30**

Бюро прапаганды мастацкай
літаратуры СП БССР

Запрашэнне

Запрашальны білет, 1979 г.

* * *

Ты цвіла ў дамешках
Русізны, пальшчызны.
Прыхадню казала:
Скарбаў не патрушч!..
Не смуткуй са мной,
Збіральніца Айчыны!
Ты яшчэ не скончыла
Яднанне душ!

*1991*



Мікола Арочка і Сяргей Панізьнік (справа) на Слонімшчыне ў вёсцы Вялікая Кракотка

* * *

Я прадракаю — беды перажыць,
Трываліць першародныя высновы,
Душы сваёй адзенне —
Роднасць мовы,
Цудоўнай беларускай нашай мовы, —
Не пакідай, мой край,
Калі ты хочаш жыць!

*31.07.1989*





На пярэднім плане злева направа Іван Чыгрын, Мікола Арочка і Уладзімір Мархель, 1970-я гг.



Мікола Арочка з поўным партфелем сваіх твораў




Зборнік вершаў, 1967 г.



Таіса Бондар і Мікола Арочка

* * *

Просяць заступніцтва родныя нетры,
Першавытокі, старыя муры...
Рушымся!
Прагна я дыхаю ветрам:
Дзьме ён у ветразі нашы,
Сябры!

*2009*





Паэтаў Анатоля Іверса (справа) і Міколу Арочку ў слонімскіх школах сустракалі з хлебам-соллю, 1984 г.

* * *

Я Ваш вызнанец мэтаў і надзей
На Адраджэнне вольнай Беларусі.
Я з вераю — у Боскі Дом людзей
Заходжу ціха —
і на Вас малюся.

*2012*










Аўтографы Віктара Каваленкі



Падчас сустрэчы са сваімі землякамі



Мікалай Мікалаевіч любіў фізічную працу





Мікола Арочка і Алесь Мажэйка



Паэт чытае вершы ў Сялявіцкай сельскай бібліятэцы Слонімскага раёна, 1975 г.



Зімовы фотаздымак на памяць




Кніга пра Валянціна Таўлая, 1969 г.



Усміхаецца Мікола Арочка. За яго плячыма — Казімір Камейша, Іван Курбека, Сцяпан Александровіч



Мікола Арочка з супрацоўнікамі Інстытута літаратуры АН БССР



Марыя Іванаўна Арочка і паэт Артур Вольскі






Аўтограф Максіма Танка, 1972 г.




Аўтограф Алега Лойкі, 1964 г.




Кніга літаратурнай крытыкі, 1974 г.



Пісьменнікі Гродзеншчыны.
Злева направа: Алена Руцкая, Алег Лойка, Анатоль Іверс, Сяргей Чыгрын, Мікола Арочка, Данута Бічэль, Аляксей Пяткевіч, Алесь Сучок, Слонім, 1987 г.



Дзядзька Юзік — брат Якуба Коласа, Мікола Арочка, Максім Танк і Іван Шамякін у вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна, 1974 г.



Мікола Арочка слухае



Малюнак паэта з кнігі «Бяздоннае», 1985 г.





Сын Леанід Арочка (1957–1981)



Сын Віталь Арочка (1964–1992)



На вёсцы працы хапала



З унукам Валерыкам, 1990-я гг.



Мікола Арочка, Яўген Лецка, Сцяпан Лаўшук і Нічыпар Пашкевіч, 1976 г.




Зборнік паэм і вершаў, 1978 г.




Літаратуразнаўчае выданне, 1979 г.




Аўтограф Янкі Брыля, 1962 г.



На пасяджэнні вучонай рады Інстытута літаратуры. У першым радзе — акадэмікі В. Івашын, В. Барысенка; у другім радзе — С. Лаўшук, М. Арочка і В. Жураўлёў





Мікола Арочка і Сяргей Чыгрын, пачатак 2000-х гг.



Іх любілі вяскоўцы. Былы старшыня калгаса Эдуард Арочка і пісьменнік Мікола Арочка, пачатак 2000-х гг.




Кніга выбраных твораў,
1980 г.




Драматычныя паэмы, 1982 г.
Мастак Мікола Купава

* * *

Хоць бы год, каб наш свет — без грымот!
Паласнуўшы, маланка ўсміхнецца...
Ты ж, як зорка, вяшчуеш год,
Год спакойнага сонца,
Год спакойнага сэрца.

*1974*






Вуліца ў вёсцы Вецявічы названа ў гонар двух
Арочкаў — Міколы і Эдуарда



Абарона кандыдацкай дысертацыі Алеся Бельскага
ў АН Беларусі. Выступае Мікола Арочка.
Злева Павел Дзюбайла, 1991 г.



Віншуе дысертанта Алеся Бельскага Алег Лойка,
побач — Віктар Каваленка, Мікола Арочка, студзень 1991 г.




На ўрачыстасці, прысвечанай 75-годдзю беларускага паэта Паўлюка Труса ва Уздзе. Чацвёрты злева Мікола Арочка, 1979 г.



Мікола Арочка — доктар філалагічных навук






Драматычная паэма, 2001 г. Мастак Мікола Купава




Аўтограф Генадзя Кісялёва, 1988 г.




Кніга пра жыццёвы і творчы шлях Максіма Танка, 1984 г.



Мікола Арочка з жонкай Марыяй
і ўнукам Валерыкам, 2002 г.



Мікола Арочка са сваёй кароўкай, 2000 г.



На ганку роднай хаты з суседкай



Арочкі са сваімі землячкамі, 2006 г.





Рукапіс драматычнай паэмы Міколы Арочкі «Каранацыя Міндоўга»




Выбраныя творы паэта, 1991 г.

* * *

Мой родны свет:
Я ў кожнай тут часцінцы
Жыву — дзялю трывогу і слязу.
І ўсё, чым з каранёў тут
прычасціўся,
Я ў людства, як урок ваш,
панясу.

*1977*




Валерык Арочка —
унук паэта



Мікола Арочка з бібліятэкарам
Ірынай Каранец, 2005 г.



Мікола Арочка з зямлячкамі на Слонімшчыне, 2005 г.





Міхась Скобла і Мікола Арочка, 2007 г.



Мікола ў родных Вецявічах,
2007 г.



Свае вершы паэт заўсёды насіў
у кошыку, 2007 г.



Мікола Арочка знаёміць Міхася Скоблу са сваімі козачкамі, 2008 г.



Марыя і Мікола Арочкі ў роднай вёсцы Вецявічы Слонімскага раёна. Апошні прыжыццёвы здымак






Кніга, прысвечана паэзіі М. Ю. Лермантава ў творчым лёсе Аркадзя Куляшова, 1990 г.




Драматычныя паэмы Міколы Арочкі ў перакладзе на рускую мову Уладзімірам Яругам. Масква, 1990 г.



У апошнія гады жыцця



Мікола Арочка са сваякамі памінае сына Леаніда




Магіла Міколы Арочкі ў роднай вёсцы Вецявічы
на Слонімшчыне



Хата пісьменніка ў роднай вёсцы Вецявічы






Мемарыяльная шыльда
на хаце Міколы Арочкі
ў вёсцы Вецявічы
Слонімскага раёна




Маша Арочка —
праўнучка Міколы
Арочкі




Насценны каляндар «Знакамітыя людзі Слонімшчыны».
Унізе другі злева Мікола Арочка, 2017 г.

* * *

О, брацкі наш дол у свінцовай пакуце!
Будуеце зноў беларускі наш Дом?
Пакуль вы будуеце — мы не памром!
Будуйце!

*2012*






Выбраныя творы пісьменніка, 2020 г.




Паштоўка, прысвечаная Міколу Арочку, 2019 г.

* * *

Я веру, утрапёны, ў моц літання.
Чысцее ў маіх сценах і ў душы...
Ты ж перамог, Ісусе, на крыжы,
Каб Дом мой абмінула
ўкрыжаванне!

*2009*

**12+**

Літаратурна-мастацкае выданне

**Чыгрын** Сяргей Мікалаевіч

**Дзяліў трывогу і настрой**
*Мікола Арочка на фотаздымках*

Адказны за выпуск Генадзь Вінярскі
Рэдактар Алена Спрытніч
Набор Сяргея Чыгрына
Вёрстка Ларысы Гарадзецкай
Карэктар Алена Спрытніч

Падпісана да друку 11.02.2021. Фармат 60×84/16. Папера афсетная.
Друк лічбавы. Ул.-выд. арк. 0,38 Ум. друк. арк. 3,03.
Наклад 50 ас. Зак. .

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 249-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ААТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/167 ад 01.10.2014.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.